


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА


№ 15(25) • 29 МАЯ — 4 ЧЭРВЕНЯ 1991 • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)


## Поступ тыдня

### Святкаванне ў Смаленску

Вясёлым карнавалам і маляўнічым феерверкам завяршылася Свята славянскай пісьменнасці і культуры ў Смаленску. У ходзе Свята была ўрачыста адкрыта памятная дошка, прысвечаная славянскім асветнікам Кірылу і Мяфодзію, а таксама выстаўка трох рэспублік — Расіі, Украіны і Беларусі, названая «Помнікі Айчыны», праведзена навуковая канферэнцыя і фестываль мастацкіх і дакументальных фільмаў пра славянскую садружнасць. Арганізаваны народныя гулянні, выступленні фальклорных калектываў, адкрыта «Глінкаўская дэкада».

* * *

Упершыню змаглі сабрацца ў Беларусі і пазнаёміцца ўвачавідкі з культурай, якую яны вывучаюць, вучоныя з усіх канцоў свету, што прынялі ўдзел у Першым міжнародным кангрэсе беларусістаў. Акрамя савецкіх даследчыкаў, дэлегатамі на яго прыслалі нацыянальныя асацыяцыі беларусістаў з многіх славянскіх краін, а таксама ЗША, Англіі, Германіі і іншых. Матэрыялы аб рабоце кангрэса будуць змешчаны ў наступных нумарах «Нашага слова».

* * *

Міністэрства юстыцыі БССР зарэгістравала яшчэ адну новую партыю — Беларускую Сацыял-Дэмакратычную Грамаду. Яна ставіць задачай стварыць гуманнае дэмакратычнае грамадства на аснове многаўкладнай эканомікі, свабоды асобы, сацыяльнай справядлівасці і салідарнасці, дасягнуць палітычнай незалежнасці Беларусі.

## *Насустрач з'езду ТБМ*

Вось што не так даўно здарылася непадалёк Гудзевічаў на Мастоўшчыне. Згаварыліся сябры рэгіянальнай рады ТБМ імя Францішка Скарыны адкрыць малое прадпрыемства (як вядома, прадпрыемствы, зарэгістраваныя пры ТБМ, не абкладаюцца дзяржаўным падаткам). Знайшлі чалавека для выгоднае справы, а той у самую апошнюю хвілю раптам адмовіўся: палітыка, кажа, яго не цікавіць.

## КАБ ВЫЖЫЦЬ ЯК НАРОД

Магчыма, і так. Сапраўды, палітыка — змаганне за выжыванне народа. Дорага народу абыходзіцца здзек з радзімы-маці некаторых яе чыноўных сыноў. У позірку Алеся Белакоза смутак і рашучасць.

— Людзі яшчэ баяцца,— кажа ён.— Але па ўсім відаць, сталінізм болей не вернецца. Нават Камуністычная партыя разумее, што мову беларускаму народу даць усё ж давядзецца.

Можа быць палітыка без беларушчыны, але не беларушчына без палітыкі. Алесь Белакоз ведае гэта з часоў, калі давялося праз свае нацыянальныя перакананні неаднойчы гутарыць з прадстаўнікамі КДБ, атрымліваць вымовы на працы. Народны фронт і Таварыства беларускай мовы існавалі на Мастоўшчыне практычна задоўга да перабудовы. Бо рабіў у Гудзевічах беларускую справу спадар Алесь. Стварыў выдатны музей, выхаваў нямала патрыётаў. Таму не дзіва, што калі ўтварылася ТБМ імя Францішка Скарыны, адразу ж узнікла і Гудзевіцкая суполка Таварыства. Зараз у ёй каля пяцісот чалавек — сяляне, калгасныя пенсіянеры, вясковая інтэлігенцыя.

— Шмат работы, як і раней, робім у Гудзевіцкім музеі,— кажа спадар Алесь,— У музеі адроджана старажытнае ткацтва падвойных дываноў (гэтакія ткуць толькі на Гродзеншчыне і ў Чылі). Передала сакрэты ткацтва спадарыня Райская з Адэльска. Тчом паяскі, гальштукі, ручнікі, ходнікі.

— У мінулым годзе,—працягвае ён,— тэбээмаўцы многа зрабілі, каб урачыста адзначыць юбілей Францішка Скарыны. Рыхтуем і праводзім народныя святы. Гэта таксама палітыка. Палітыка вяртання людзей да сваіх каранёў.

Спадар Алесь — дэпутат Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў. Вылучала яго абласное Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Разам з дэпутатам Мастоўскага раённага і Гродзенскага абласнога Саветаў Васілём Білідам, дэпутатам Мастоўскага раённага Савета Алегам Рудабельцам (яны шмат дапамагаюць у рабоце Гудзевіцкай рады) імкнуцца дзейнічаць праз заканадаўчыя органы ўлады. У Мастоўскім раёне пад уплывам дэпутатаў-тэбээмаўцаў дзейнічае дэпутацкі клуб, праведзена сесія райсавета па пытаннях беларусізацыі.

Аднак у працы самой суполкі вельмі адчуваецца фінансавая праблема. Да сённяшняга дня Рэспубліканская Рада не выпрацавала дакладнай тактыкі ў гэтай справе. У выніку кожная суполка дзейнічае асобна ад іншых. Той самы Гудзевіцкі музей мог бы прыносіць Таварыству валюту. Хай бы яно дапамагло наладзіць сувязі з замежжам, дзе беларускае народнае ткацтва, па ўсім відаць, ацанілі б вельмі высока. Маглі б гудзевіцкія тэбээмаўцы дапамагчы распаўсюдзіць крэмень — каштоўны лекавы сродак — у кіёску ТБМ, праз суполкі Таварыства. Карацей, сувязі між цэнтрам і суполкамі павінны стаць больш трывалыя. А без гэтага пашырацца адраджэнскі рух не можа. Беларуская палітыка не абыдзецца без шырокага ўдзелу народа.

Л. ВАШКО.

## Сустрэчы ў Наваполацку

Адбылося чарговае пасяджэнне гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. На ім выступіла старшыня рады пісьменніца Ірына Жарнасек. Былі абмеркаваны фінансавыя справы таварыства. Узнята пытанне аб стварэнні ў горадзе культурнага беларускага цэнтра. Сябры рады заслухалі інфармацыю намесніка загадчыка Наваполацкага гарана А. А. Турнова адносна стварэння ў новым навучальным годзе беларускамоўных класаў у іншых гарадскіх школах, акрамя 5-й і 9-й.

На пасяджэнні выступіў рэдактар друкаванага органа ТБМ штотыднёвіка «Наша слова» Эрнэст Ялугін, які расказаў пра планы газеты.

Прысутныя, у прыватнасці паэт Навум Гальпяровіч, рэктар народнага універсітэта «Роднае слова» пры ТБМ Наваполацка кандыдат філасофскіх навук Р. Д. Грудніцкі і іншыя ўхвалілі работу газеты і паабяцалі садзейнічаць падпісцы на «Наша слова».

* * *

**Піянерам** у справе беларусізацыі гарадскіх школ на Беларусі з'яўляецца наваполацкая СШ № 5. Сёлета ў яе сценах вучацца чатыры беларускамоўныя класы (з чацвёртага па першы). Нядаўна вучні гэтых класаў атрымалі падарункі ад аб'яднання беларуска-амерыканскай моладзі. У іх — аднаразовыя шпрыцы, алоўкі, фламастары і іншыя неабходныя для навучання ў школе рэчы. Гэтыя падарункі прывезла доктар з Нью-Йорка Ганна Бартуль. У скрыні, якую яна сама перадала вучням, дзеці знайшлі ліст ад беларускай моладзі з Амерыкі. Моладзь пісала, што не павінна быць межаў паміж беларусамі ўсяго свету.

А. КОЗІК.


*У Мінску адбыўся Міжнародны кангрэс беларусістаў свету*

*Стар. 2*

*Спыніць хаос у беларускім правапісе*

*Стар. 2*

*Каго рыхтуюць у ліцэі?*

*Стар. 3—4*

*Колькі цярпець здзекі з роднага слова?*

*Стар. 4*


## Абмеркавалі пытанне рэформы

Шаснаццатага мая ў Мінску адбылася нарада навукоўцаў-моваведаў на тэму «Пытанні рэформы беларускага правапісу». Нарада была склікана Акадэмічнай радай Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. На ёй выступілі з дакладамі Сяргей Запрудскі, Янка Войніч, Сяржук Санько, Вінцук Вячорка, Генадзь Цыхун, Язэп Стапановіч.

Удзельнікі нарады звярнуліся да ўсіх, хто заклапочаны лёсам роднае мовы, «узяць чынны ўдзел у абмеркаванні пытанняў рэформы беларускага правапісу на старонках перыядычнага друку, у падрыхтоўцы і правядзенні на розных узроўнях форумаў, прысвечаных гэтай праблеме».

## *МІЛАСЭРНАСЦЬ — ДЗЕЯННЕМ*



***Больш за 20 тон вітамінаў і медпрэпаратаў на мільён заходнегерманскіх марак атрымана ў адрас беларускага таварыства «Радзіма». Гэту гуманітарную дапамогу ўжо ў шосты раз аказвае Саюз свабодных пяцідзесятніцкіх цэркваў Германіі. Гаючы дар прызначаны для тых медыцынскіх устаноў рэспублікі, дзе лечацца дзеці і дарослыя, што пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі.***

На здымку: ***першы намеснік старшыні прэзідыума таварыства «Радзіма» Мікалай Васілёнак (другі справа) прымае дар ад прадстаўнікоў Саюза свабодных пяцідзесятніцкіх цэркваў Германіі Ірэны і Міхаіла Мельнікаў (злева) і Ірэны і Хессе Хербертаў.***

Фота А. МІКАЛАЕВА (БЕЛТА).

## *Актуальнае інтэрв'ю*

## БЕЛАРУСКІЯ СКАЎТЫ

Палітыка галоснасці і плюралізму дала магчымасць для стварэння новых партый. А якія ж змены адбываюцца ў дзіцячым руху? На гэтыя і іншыя пытанні мы папрасілі адказаць сябра Мінскай гарадской рады ТБМ, навуковага супрацоўніка Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, кандыдата філалагічных навук Алеся Юр'евіча Лозку.

— У гісторыі дзіцячага руху вядомы два асноўныя накірункі. Гэта — піянерскі, створаны ў 1922 годзе, і скаўцкі. Пра скаўтызм, які мае даўнюю гісторыю і шырокае распаўсюджанне ў свеце, мы амаль нічога не ведаем, бо былі адгароджаны ад цывілізаванага свету глухою сцяною камуністычнай ідэалогіі, нібы адзіна вернай палітычнай сістэмы, якая не дапускае іншадумства і якая сёння церпіць паражэнне. Што да піянерскага руху, то ён вычарпаў сябе, бо слепа павінаваўся старэйшаму брату камсамолу і быў гатовы выканаць любую яго прыхамаць. Хаця задумваўся ён з добрых пабуджэнняў.

Слова «піянер» паходзіць ад французскага (*pionnier*), што азначае даследчык, пачынальнік чаго-небудзь, першаадкрывальнік; «скаўт» — з англійскай мовы (*scaut*) — гэта разведчык. У Англіі першыя скаўцкія арганізацыі ўзніклі ў 1907 годзе, затым у Францыі, Германіі, Італіі, ЗША, у Расіі — з 1909 года і праіснавалі да 1919 года, калі іх распусціў 2-гі з'езд РКСМ. У 1953 годзе, напрыклад, скаўты былі ў сямідзесяці краінах. Хлопчыкаў называлі па-англійску «бой-скаўтамі», дзяўчынак — «гёрл-скаўтамі».

Адраджаючы новы дзіцячы рух на Беларусі, мы імкнёмся творча спалучыць вопыт міжнародных скаўцкіх арганізацый і лепшае з набытага ў піянерскай і камсамольскай дзейнасці. Важнай адзнакай новай арганізацыі з'яўляецца яе нацыянальна-патрыятычная адметнасць, што амаль у самым пачатку вынішчалася ў піянерска-камсамольскім руху.


Заканчэнне на 3-й стар.

# З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ ЛІНГВІСТА

## (Да дыскусіі аб правапісе)

З пачаткам рэалізацыі «Закона аб мовах у Беларускай ССР», згодна з якім беларуская мова абʼяўлена дзяржаўнай, на тэрыторыі рэспублікі павольней, чым хацелася б, але пашыраецца кола людзей, якія пачынаюць карыстацца ёю. Таму патрабаванні да якасці пісьмовай і вуснай форм мовы ўзрастаюць. Аднак практыка перыядычнага друку сведчыць, што ў кірунку яе ўдасканалення робіцца вельмі мала. Незадавальненне станам нашай літаратурнай мовы выклікала разбуральны працэс размывання межаў нават тых лексічных, граматычных і правапісных норм, якія больш-менш усталяваліся. Характэрна, што гэтаму працэсу з'явілася нават тэарэтычнае абгрунтаванне.

Часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе» (№ 4, 1990 г.) змясціў, напрыклад, матэрыял, аўтар якога сцвярджае: «Калі мы сапраўды хочам адраджэння жывой моўнай стыхіі, мы мусім улічваць тое, што некалькі дзесяцігоддзяў беларуская мова не была ў вуснах народа, а народ за гэты час пераехаў у горад. Таму мы ў кожным разе мусім пераждаць хаос і атрымаем у выніку ўжо не тую мову, якая зафіксаваная ў апошніх слоўніках і граматыках».

І як быццам са згоды многіх майстроў слова, асобных людзей вучонага рангу так яно і адбываецца. Не гаворачы ўжо пра лексіку і граматыку, дзе і да гэтага хапала непаслядоўнасцей, перыядычны друк застракацеў матэрыяламі, якія друкуюцца то згодна з афіцыйным правапісам, то на грунце незразумелай сумесі сучаснага правапісу і правапісу 20-х гадоў, то з улікам таго, што сустракалася ў беларускамоўнай прэсе толькі ў часы фашысцкай акупацыі, то ўрэшце за аснову як быццам бы бярэцца правапіс, прапанаваны Б. Тарашкевічам, але з памылкамі, нярэдка грубымі.

Хіба гэта не сапраўдны хаос? Але ж ён руйнуе пісьмовую мову, падточвае яе аснову, робіць яе для масы пісьменных людзей аморфнай, пазбаўляе яе прыцягальнай аб'яднальнай сілы, якая так патрэбна ў момант пашырэння сфер ўжывання мовы, у час масавага далучэння да яе новых людзей, усяго грамадства рэспублікі.

Варта было б гарачую і пачуццёва афарбаваную палеміку і партызанскі саматужны правапіс замяніць на сур'ёзную дыскусію з аргументацыяй неабходнасці пэўных змен і ўдакладненняў, якія будуць прапаноўвацца тым або іншым аўтарам.

З пункту гледжання лінгвіста любая прапанова павінна ўлічваць, як яна задавальняе патрэбы і ў якой ступені робіць больш лёгкім або больш цяжкім пісьмо для таго, хто піша (зразумела, не пад дыктоўку), і для таго, хто чытае (а не вывучае мову па пісьмоваму тэксту).

Важным момантам дыскусіі з'яўляецца пытанне, што трэба ўдасканальваць, бо зараз існуе два погляды на гэта: адны лічаць, што трэба проста ігнараваць правапіс 1933 года і за аснову прыняць правапіс граматыкі Б. Тарашкевіча; іншыя лічаць мэтазгодным абапірацца на існуючы правапіс, бо рэформа 1933 года была крокам наперад у параўнанні з правапісам, якім карысталіся ў 20-я гады.

Выключная заслуга Б. А. Тарашкевіча ў стварэнні першай беларускай граматыкі для школ выклікае глыбокую павагу, але варта адзначыць, што школьная граматыка не магла і не павінна была адлюстраваць правапіс з належнай ступенню падрабязнасці. У ёй дадзены толькі важнейшыя і найбольш агульныя правілы правапісу, з якіх можна вывесці прынцыпы перадачы гукаў мовы ў складзе слоў і больш буйных адзінак мовы. Самі правілы не заўсёды ўдала сфармуляваны, што непазбежна пры першай арфаграфічнай спробе. Вось, напрыклад, правіла: «Калі *у* або *і* стаяць пасьле слова, каторае канчаецца галосным, то ствараецца падобнае палажэньне: *у* і *і* замяняецца на *ў* і *й*. Але выключэньне 2 і 3 уносяць у гэта правіла такія няпэўнасці, якія фактычна вядуць да разнабою, бо можна пісаць *спусьцілася імгла* і *спусьцілася ймгла; ён яго і поіць, і корміць* і *ён яго й поіць, і корміць* (Беларуская граматыка для школ, выд. 5. Вільня, 1929, с. 116). Недасканаласць гэтага правіла абумоўлена апорай выключна на інтуіцыю (у словах *імгла* і *ігрышча*, якія прыводзяцца ў якасці прыкладаў, *і* — рознага паходжання, а ў прыведзеным сказе не ўлічана, што злучнік *і* не можа быць пад націскам — відавочна, тут мелася на ўвазе нешта іншае). І такіх прыкладаў шмат. Правапіс запазычаных слоў Б. Тарашкевіч толькі абазначыў, ды і то без апоры на іх адаптацыю ў беларускіх гаворках.

Рэформа 1933 года, якая завяршылася выданнем правіл правапісу ў 1934 годзе, захавала галоўныя прынцыпы граматыкі Б. Тарашкевіча: у асноўным напісанне галосных згодна з фанетыкай і напісанне зычных па марфалагічнаму прынцыпу (з пэўнымі выключэннямі). Яна спрасціла перадачу акання (у тым ліку ў запазычаннях) і якання. Правапіс гэты аказаўся і значна больш падрабязным. Іншая справа, што ён застаўся непаслядоўным, у тым ліку і пад уплывам палітычных ідэй таго часу. Не выратавалі яго ад гэтага і частковыя змены і ўдакладненні, унесеныя ў 1957 годзе. І ўсё ж мы маем грунтоўную аснову для далейшага ўдасканалення.

Напярэдзе складаная калектыўная работа спецыялістаў-мовазнаўцаў і творчай інтэлігенцыі, і трэба зразумець, што праз некаторы час зноў выявіцца, што і новы варыянт таксама можа аказацца недасканалым хаця б таму, што ён заўсёды і паўсюдна з'яўляецца кампрамісам паміж навуковым падыходам і інтуітыўнай грамадскай думкай. Іменна з-за гэтага кампрамісу ні ў адной мовы свету няма правапісу, які не трэба было б удасканальваць. І калі ўдасканаленне не праводзіцца, дык толькі таму, што грамадства разумее — кансерватыўнасць правапісу мае свае прыцягальныя станоўчыя бакі.

Неабходна ўлічваць і той факт, што работа над правапісам не павінна палітызавацца (на жаль, гэта ўжо было ў нашай гісторыі). З гэтай справы лепш выкінуць палітычныя амбіцыі, бо накопленага горкага вопыту больш чым дастаткова, калі прыпомніць асабліва правапіс для інтэрнацыянальных слоў, набыўшага аскоміну канчатка -а ў родным склоне ў словах *камунізм, сацыялізм, марксізм*, для якога нельга даць ніякага разумнага абгрунтавання, некаторыя правілы напісання вялікай літары і інш.

Зараз балюча чытаць вядомую кнігу ўсхвалення рэформы 1933 года. Ці не будзе балюча чытаць і нашым нашчадкам тое, што зараз пішацца на гэту тэму? Палітызацыя прыводзіць да таго, што кожны паварот у палітыцы пабуджае зноў і зноў вяртацца да правапісу. Ці разумна гэта? Ці не лепш гэтыя праблемы раз і назаўсёды раздзяліць?

Безумоўна, усе пытанні правапісу, якія ўжо пастаўлены ў друку і пра якія найбольш часта гавораць, патрабуюць грунтоўнага абмеркавання. Але калі паставіцца з павагай да ўсіх, хто чытае і хто піша на беларускай мове, і ўдасканальваць пісьмо для яго больш зручнага ўжывання, то трэба прааналізаваць літаральна ўсе правілы, якія зафіксаваны ў «Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» (Мн., 1959), у даведніках і граматыках. Той, хто гэта зробіць, зможа пераканацца, што паляпшаць трэба значна больш, чым адзначаецца ў друку. І праблемы значна больш складаныя і адказныя.

Надзённасць удакладненняў мовазнаўцы... 

На адну са складанасцей хацелася б звярнуць асаблівую ўвагу. Правапіс канчаткаў у нашым мовазнаўстве традыцыйна разглядаецца ў нерасчлянёным выглядзе. А на самай справе тут дзве праблемы. Адна з іх зводзіцца да правапісу галосных і зычных у канчатках (чаму пішам *полем* з *е*, а не з *я*, напрыклад). Гэта правапісная праблема. Зусім іншага падыходу патрабуе выбар канчаткаў з некалькіх магчымых (напрыклад, *народа* ці *народу*). У большасці выпадкаў тут мы маем справу з дыялектнай асновай граматыкі літаратурнай мовы. На рашаючым этапе яе фарміравання яна абапіралася на цэнтральнабеларускія гаворкі, у далейшым дыялектная база яе пашыралася, што трэба лічыць станоўчым момантам, калі гэта датычыць папаўнення лексікі. Але ў адносінах да граматычных з'яў аднaзначная ацэнка гэтых працэс немагчыма, бо ў выніку сістэмнасць граматыкі моцна парушаецца.

Хоць гэта і неправапісная праблема, яна выклікае значныя цяжкасці для ўсіх, хто піша па-беларуску. Напрыклад, наўрад ці знойдзецца з дзесятак чалавек, у пісьмовай мове якіх назіралася б поўная паслядоўнасць ва ўжыванні ўжо памянутых канчаткаў *-а, -у* у родным склоне адзіночнага ліку або канчатка *-яў* у родным склоне множнага ліку назоўнікаў жаночага роду тыпу *радасць*.

Хацелася б адзначыць, што мы, відаць, перабольшваем уплыў пісьма на вусную мову. У прыватнасці, гэта праяўляецца ў спрэчках пра абазначэнне асімілятыўнай мяккасці. Калі ў якасці зыходнага пункту прыняць, што неабазначэнне асімілятыўнай мяккасці зычных (*сьнег*) прыводзіць да яе страты, то немагчыма растлумачыць, чаму, напрыклад, мяккасць *ч* у рускай мове захоўваецца нават насуперак таму, што рускі правапіс у шматлікіх выпадках абазначае яго як цвёрды гук (чай, чудо, чопорный, калач). Калі б пісьмо аказвала такі моцны ўплыў на вымаўленне, як гэта яму прыпісваецца, то нельга зразумець, чаму ў беларускай мове губныя зычныя на канцы слоў ацвярдзелі, нягледзячы на тое, што на пісьме іх мяккасць працяглы час яшчэ абазначалася (гл. *голубь, бровь* і інш. у «Гістарычным слоўніку беларускай мовы»). Шыпячыя *ж, ч, ш* у рускай мове ацвярдзелі вельмі даўно, а галосны *ы* пасля іх перадаецца да гэтага часу. як пасля мяккіх (*и*): *жир, чиж, шило*. Наогул гісторыя мовы сведчыць, што першапачаткова з'ява ўзнікае ў вуснай мове і толькі значна пазней адлюстроўваецца на пісьме (або наогул не адзначаецца!).

У святле гэтага яўнага кансерватызму пісьма нават да такой завостранай праблемы як напісанне мяккага знака можна знайсці і больш ураўнаважаны, рацыянальны падыход. Тым больш, што ў пісьме, заснаваным на кірыліцкім алфавіце, як быццам не прасочваецца традыцыя спецыяльнага абазначэння асімілятыўнай мяккасці.

У друку пытанні правапісу ўжо абмяркоўваюцца. Вельмі хацелася б, каб было пашырана іх кола, каб у дыскусіі прынялі ўдзел усе, каму дорага наша мова. Асабліва цікава было б пачуць думку нашых настаўнікаў, якія кожны дзень сутыкаюцца з правапісам у практычным плане і вопыт якіх выключна важны. Акрамя перыядычнага друку, канкрэтныя прапановы і заўвагі можна дасылаць у Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР (220073, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 25) або ў Таварыства беларускай мовы.

Найбольш мэтазгодным здаецца, пакуль ідуць дыскусіі, каб усе прытрымліваліся існуючага правапісу аж да пары, пакуль не будуць выпрацаваны ўдакладненні і змены, якія грамадства палічыць патрэбным унесці ў яго. Гэта было б толькі на карысць нашай мове.

А. І. ПАДЛУЖНЫ.
дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР.

**Міжнародны кангрэс беларусістаў у Мінску**

# Нашы сябры з Аўстрыі

Мы сядзелі ў прасторнай зале кафэ «Вінклер», што размясцілася на глядзельнай пляцоўцы Менхсберга (Манаскай гары). Праз вялізныя вокны-сцены адкрываецца захапляючая панарама старажытнага Зальцбурга, які на працягу стагоддзяў захоўвае сваё гістарычнае аблічча. Гамонім, успамінаем агульных сяброў, сустрэчы ў Мінску. Маіх субяседнікаў Фердынанда Нойрайтэра і Германа Бідэра цікавіць усё: калі пачне працаваць летняя школа па вывучэнню беларускай мовы, дзе будзе праходзіць Міжнародны кангрэс беларусістаў, як нам цяпер працуецца і жывецца. Яны вельмі розныя і па ўзросту, і па характару, і па роду сваёй дзейнасці. Заўсёды спакойны, разважлівы, з нейкай журбінкай у вачах, доктар філалогіі Г. Бідэр (выкладчык кафедры славістыкі факультэта гуманітарных навук Зальцбургскага універсітэта), і старэйшы па ўзросту — жвавы, энергічны, крыху насмешлівы, аптыміст па натуры Ф. Нойрайтэр, ужо пенсіянер. Аб'ядноўвае гэтых цікавых людзей захапленне беларускай культурай, мовай і літаратурай. Кола прафесійных інтарэсаў доктара Бідэра даволі шырокае. З 70-х гадоў ён займаецца вывучэннем нямецка-славянскіх і ўнутрыславянскіх кантактаў на ўсіх узроўнях мовы (лексікі, фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу). Яго асноўная праца — «Нямецкія словаўтваральныя элементы ў славянскіх мовах».

У 1973 годзе, рыхтуючыся да Міжнароднага кангрэса славістаў у Варшаве, Г. Бідэр упершыню звярнуўся да беларускага слова. Яго захапіла параўнальнае вывучэнне старабеларускіх і старапольскіх пісьмовых помнікаў. Так з'явілася першая яго праца па гэтай тэматыцы: «Літоўскі статут 1529 г.» (Заўвагі да гістарычнай арфаграфіі і фанетыкі старабеларускай юрыдычнай мовы) і «Літоўскі статут 1588 г.» (Фанетыка беларускай мовы ў параўнанні з польскімі перакладамі). Далей доктар Бідэр зацікавіўся вывучэннем нямецкіх лексічных элементаў у старабеларускай пісьменнасці, а з мінулага года ён ушчыльную займаецца вывучэннем моўнай і культурнай палітыкі на Беларусі і Украіне. Зусім нядаўна, у сакавіку, выйшла яго праца «Першае і другое адраджэнне беларускай мовы і культуры». Ёсць у Г. Бідэра і творчыя планы на будучае. Ён мяркуе напісаць кніжку «Уводзіны ў беларускую філалогію» (для тых, хто гаворыць па-нямецку). На кангрэсе доктар Бідэр выступіў з дакладам «Інтэрпрэтацыя нямецкіх лексічных элементаў у беларускай мове з пункту гледжання нямецкай дыялекталогіі».

Фердынанд Нойрайтэр не філолаг, сціпла лічыць сябе аматарам. Зараз ён адзіны ў Аўстрыі чалавек, які займаецца асветніцкай справай на беларускай ніве. Яго пяру належаць папулярныя артыкулы аб беларускай літаратуры, культуры і гісторыі. Першае знаёмства з беларускім словам адбылося ў 60-х гадах, калі спадар Фердынанд выкладаў у вячэрняй школе для дарослых. Упершыню беларускую мову ён пачуў, праслухоўваючы кружэлкі з запісамі народных песень, вершаў Я. Купалы і Я. Коласа. Як прызнаецца спадар Фердынанд, беларускае слова зачаравала яго сваёй мілагучнасцю, меладычнасцю, багаццем інтанацый. І чым болей ён знаёміўся з творчасцю беларускіх паэтаў (М. Танка, П. Панчанкі, Р. Барадуліна), тым глыбей яно западала ў душу. Пошукі новых беларускіх матэрыялаў прывялі ў бібліятэку імя Ф. Скарыны ў Лондане. Адбылася сустрэча з яе нязменным кіраўніком спадаром Надсанам. Менавіта Надсан заахвоціў Ф. Нойрайтэра да складання «Анталогіі беларускай літаратуры» для нямецкамоўнага чытача, якая выйшла ў 1983 годзе ў Мюнхене і атрымала высокую ацэнку беларускіх літаратуразнаўцаў (Мальдзіса, У. Сакалоўскага і інш.).

Асабістыя кантакты з Ю. Попкам у Ляймэне (ФРГ) зноў скіравалі Ф. Нойрайтэра да перакладчыцкай дзейнасці з беларускай мовы на нямецкую. Так з'явіўся пераклад аповесці Ю. Жывіцы (Ю. Попкі) «Свецiць у тумане» (дарэчы, яшчэ не выдадзенай у нас). Апошнім часам у «Зальцбургскай народнай газеце» былі надрукаваны артыкулы Ф. Нойрайтэра «Янка Купала — паэт з Беларусі» з аўтарскім перакладам яго вершаў («Мужык», «А хто там ідзе» і інш.) і «Беларусь — папялушка Еўропы». На кангрэсе Ф. Нойрайтэр выступіў з паведамленнем «Мая дарога да Беларусі».

Г. Бідэр і Ф. Нойрайтэр былі адзінадушныя ў сваім пажаданні, каб зноў абуджаны беларускі патрыятызм прывёў да нацыянальнага моўнага і культурнага адраджэння Беларусі. Падзякуем ім на добрым слове! Са свайго ж боку пажадаем нашым аўстрыйскім сябрам плёну ў працы, цікавых і карысных сустрэч на гасціннай беларускай зямлі.

Л. ХРЫШЧАНОВІЧ,
выкладчык БДУ імя У. І. Леніна.

# Беларускае адраджэнне ў святле друку

**Плённа працуе Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Акадэміі навук БССР. Нямала цікавых задум ажыццявілі першасныя арганізацыі — сябрыны і суполкі, якія створаны, па сутнасці, у кожным інстытуце. Аматары беларускай мовы аддзялення біялагічных навук збіраюцца разам на пасяджэнні сябрыны, каб паслухаць народныя песні, пагаварыць аб сваіх праблемах. Тут прызнаны лідэр — Язэп Сцепановіч. Ён працуе над слоўнікам русізмаў, для якога сабраў багаты матэрыял.**

**Нямала прыхільнікаў матчынай мовы і ў фізіка-тэхнічных інстытутах. Кандыдат фізіка-матэматычных навук Уладзімір Паўловіч працуе над складаннем руска-беларускага фізічнага слоўніка, выступае з лекцыямі па праблемах гісторыі культуры і мовы ў школах. Актыўна прапагандуюць роднае слова Ю. Хадыка, М. Саскевіч і іншыя вучоныя.**

**Акадэмічнае Таварыства падтрымлівае сувязі з выхавацелямі і кіраўнікамі дзіцячых устаноў. Амаль ва ўсіх дзесяці ўстановах Акадэміі навук створаны ў садках групы з выхаваннем дзяцей на беларускай мове. Летась на дабрачынных пачатках на ратапрынце выпушчаны чатыры брашуры ў дапамогу выхавацелям, музычным кіраўнікам. Адна з іх, напрыклад, называецца «Ехала Каляда ў чырвоным вазочку...: матэрыялы для правядзення навагодніх калядных свят». Усе выданні хутка разышліся. А некаторыя нават перапісваліся ад рукі і перасылаліся ў іншыя гарады.**

**Але не толькі аб поспехах у сваёй дзейнасці могуць расказаць сябры акадэмічнага Таварыства. Як піша газета «Навіны Беларускай Акадэміі», ёсць у іх і нямала праблем. Асабліва іх абурыла тое, што нават планаванне мерапрыемстваў Акадэміі навук па рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы ў рэспубліцы праведзена ў вузкім коле, без удзелу і за спіной грамадскасці.**

**Па словах старшыні Таварыства Алеся Лозкі, сярод высокіх кіраўнікоў шаноўнай акадэмічнай установы нямала такіх, якія не ўсведамляюць, што адбываецца цяпер у Беларусі па нацыянальнаму адраджэнню. Як не ўсведамлялася імі некалі або наўмысна замоўчвалася трагедыя Чарнобыля. Так, менавіта яны адхілілі пры разглядзе мерапрыемстваў палажэнне, якое прадугледжвала веданне беларускай і рускай моў у аб'ёме, неабходным пры выкананні службовых абавязкаў шэрагам супрацоўнікаў Акадэміі навук.**

**Выклікае недаўменне, чаму пры атэстацыі не ўлічваецца веданне беларускай мовы супрацоўнікамі Акадэміі навук.**

